Пролетарыі усіх краін, злучайцеся!

Кіраўніцтва Народна-Гаспадарчага Ўчота БССР

# ІНФАРМАЦЫЙНЫ БЮЛЕТЭНЬ

## № 11 (37)

ЛІСТАПАД 1935 г.



МЕНСК — 1935

Пролетарыі ўсіх краін, злучайцеся!

Кіраўніцтва Народна-Гаспадарчага Ўчота БССР

8

# ІНФАРМАЦЫЙНЫ БЮЛЕТЭНЬ

№ 11 (37)

ЛІСТАПАД 1935 г.

МЕНСК — 1935

# I. АФІЦЫЙНЫ РАЗДЗЕЛ

## Пастанова № 1786

### Совета Народных Камісараў БССР

*14 лістапада 1935 г.* *Гор. Менск.*

### Аб правядзенні перапісу жывёлы на 1 студзеня 1936 г.

У мэтах праверкі выканання дзяржаўнага плана развіцця жывёлагадоўлі і атрымання дакладных даных аб колькасці жывёлы ў БССР, Совет народных камісараў БССР, у адпаведнасці з пастановай СНК СССР ад 16/X 1935 г., пастанаўляе:

1. Даручыць Кіраўніцтву народна-гаспадарчага ўчота БССР правесці па становішчу на 1-ае студзеня 1936 г. у сельскіх і гарадскіх мясцовасцях БССР перапіс буйнай рагатай жывёлы, авец, коз, свіней і коней, уключаючы і прыплод бягучага года, ва ўсіх калгасах, дзяржаўных, каапэрацыйных і грамадскіх гаспадарках установах і прадпрыемствах, гаспадарках калгаснікаў, аднаасобнікаў і іншых гаспадарках прыватнага карыстання жывёлай. У калгасах, соўгасах і іншых дзяржаўных, каапэрацыйных і грамадскіх гаспадарках, установах і прадпрыемствах таксама правесці перапіс пчаліных вулляў (сем'яў).

2. Даручыць Кіраўніцтву Наргасучота БССР правесці масавую кантрольную праверку даных перапісу з ахопам ёю 10% гаспадарак калгаснікаў і аднаасобнікаў і інш. гаспадарак індывідуальнага карыстання жывёлай.

3. Абавязаць Народны камісарыят земляробства і ўпаўнаважанага Народнага камісарыята соўгасаў, НК Мясцовай прамысловасці, упаўнаважанага Наркамлеса, упаўнаважанага Наркамцяжпрома, НК Унутранага гандлю і ўпаўнаважанага НК Замежнага гандлю і інш. народныя камісарыяты, якія маюць жывёлагадоўчыя гаспадаркі, а таксама старшынь калгасаў, дырэктарэў соўгасаў, каапгасаў і гаспадарак ОРС'аў да пачатку перапісу закончыць інвентарызацыю жывёлы на 1-ае студзеня 1936 г. падрыхтаваць выверaныя даныя аб выкананні плана пагалоўя жывёлы, вырашчвання маладняка і абарота стада за 1935 г.

4. Абавязаць старшынь сельсоветаў, старшынь калгасаў, дырэктароў соўгасаў і кіраўнікоў іншых дзяржаўных і каапэрацыйных гаспадарак, устаноў і прадпрыемстваў, забяспечыць

правядзенне перапісу і прадстаўденне даных перапісу згодна ўстаноўленых форм ЦУНХУ Дзяржплана СССР і зацверджаных СНК СССР у падпарадкаваных ім гаспадарках і ў устаноўленыя тэрміны.

5. Абавязаць раённыя выканаўчыя камітэты і гарадскія советы:

а) абгаварыць і зацвердзіць план падрыхтоўкі і правядзення перапісу жывёлы па раёну, аказваючы інспектурам Наргасучота штодзённую дапамогу ў арганізацыі і правядзенні перапісу, асвятляючы падрыхтоўку і ход перапісу ў раённым друку;

б) падабраць і забяспечыць раённыя інспектуры Наргасучота на час перапісу з 20 снежня па 15 студзеня 1936 г. кваліфікаванымі і палітычна праверанымі кадрамі рэгістратараў і брыгадзіраў кантрольнай праверкі перапісу жывёлы, а таксама сродкамі перасоўвання на час перапісу жывёлы;

в) не пазней 20 студзеня заслухаць на прэзідыуме РВК (гарсоветаў) вынікі перапісу жывёлы, як з пункту погляду паўнаты і правільнасці даных перапісу жывёлы, так і праверкі выканання соўгасамі і калгасамі і іншымі гаспадаркамі аграмадажанага сектара і сельсоветамі па жывёле калгаснікаў і аднаасобнікаў дзяржаўнага плана развіцця жывёлагадоўлі ў раёне.

6. Кіраўніцтву Наргасучота БССР прадставіць у СНК БССР не пазней 10 лістапада план мерапрыемстваў па правядзенню перапісу жывёлы.

7. Абавязаць Кіраўніцтва Наргасучота БССР прадставіць у СНК БССР папярэднія вынікі перапісу жывёлы па раёнам і БССР у цэлым к 15 лютаму 1936 г.

Старшыня Совета Народных Камісараў
БССР *М. Галадзед.*

Нам. кіраўніка спраў Народных
Камісараў БССР *І. Пятровіч.*

## Пастанова

### Журы конкурса на лепшую райінспектуру Наргасучота

*ад 25 кастрычніка 1935 г.*

На падставе матэрыялаў аб выкананні паасобнымі райінспектурамі паказчыкаў конкурса, журы пастанаўляе:

1. Адзначыць, што ў выніку праведзенага конкурса і разгортвання соцспаборніцтва паміж райінспектурамі дасягнута: значнае палепшанне работ райінспектур, ліквідацыя імі запазычанасці перад сектарамі КНГУ, узмацненне барацьбы супроць парушэнняў учотнай дысцыпліны, падняцце працдысцыпліны і грамадскай актыўнасці сярод работнікаў райінспектур.

2. Адзначыць, што лепшых вынікаў па паасобным паказчыкам конкурса дабіліся наступныя райінспектуры:

а) па 1-й групе раёнаў: Касцюковіцкая, Рэчыцкая і Аршанская,

б) па 2-й групе раёнаў: Бешанковіцкая і Слуцкая.

в) па 3-й групе раёнаў: Стара-Дарожская, Чашніцкая, Лоеўская і Кармянская.

3. Прызнаць, што нягледзячы на тое, што конкурс быў працягнуты да жніўня месяца, ні адна райінспектура не дабілася поўнага выканання ўсіх паказчыкаў конкурса і таму не можа быць высунута кандыдатам на атрыманне першай і другой прэмій.

4. Прызнаць, што за лепшыя вынікі па паасобным паказчыкам конкурса кандыдатамі на атрыманне 3-й прэміі з'яўляюцца: Касцюковіцкая і Рэчыцкая райінспектуры з першай групы раёнаў, Бешанковіцкая—з другой групы і Стара-Дарожская і Чашніцкая з 3 групы.

Улічваючы аднак, што Касцюковіцкая, Рэчыцкая, Бешанковіцкая і Чашніцкая райінспектуры за добрае выкананне асноўных работ па сельгассектару (якія работы з'яўляюцца таксама і асноўнымі паказчыкамі конкурса) прэміраваны па загаду КНГУ БССР ад 16-га кастрычніка г.г. № 484, а Стара-Дарожская райінспектура за добрую работу па вымярэнню ўраджая на карню збожжавых прадстаўлена для прэміравання ў ЦУНХУ

Дзяржплана СССР — прызначыць трэцюю прэмію наступным райінспектурам:

1. Аршанскай (з 1-й групы раёнаў)—у суме 300 руб.
2. Слуцкай (з 2-й групы раёнаў)—у суме 300 руб.
3. Лоеўскай (з 3-й групы раёнаў)—у суме 300 руб.
4. Кармянскай (з 3-й групы раёнаў)—у суме 300 руб.

Паказаныя прэміі размеркаваць наступным чынам: 150 руб. райінспектару асабіста, 75 руб. лепшаму ўчастковаму інспектару і 75 руб. лепшаму работніку апарата райінспектуры.

Прапанаваць Аршанскаму, Слуцкаму, Лоеўскаму і Кармянскаму райінспектарам абгаварыць на вытворчых нарадах кандыдатуры для прэміравання.

5. Адзначыць, што на-раду з райінспектурамі, якія дабіліся значнага паляпшэння работы, маецца шэраг райінспектур, якія ўсё яшчэ адстаюць па рабоце. Асабліва адстаючымі з'яўляюцца наступныя райінспектуры:

З першай групы раёнаў: Менская (раённая) і Полацкая.
З другой групы раёнаў: Петрыкаўская, Бярэзінская і Пухавіцкая.
з трэцяй групы раёнаў: Лепельская, Глуская, Асіпавіцкая і Чаўская.

Райінспектурам гэтым неабходна ўзмацніць работу і ў бліжайшы час дабіцца рашучага пералома ў сваей рабоце.

6. Звярнуць увагу ўсіх райінспектур на неабходнасць узмацнення работы:

а) па арганізацыі справы ўчота і справаздачнасці ў сельсоветах і аддзелах РВК.

б) сістэматычнага вядзення кнігі „асноўныя паказчыкі выканання народна-гаспадарчага плана раёна“.

в) большай мабілізацыі грамадскасці вакол пытанняў учота і

г) падняцця тэхучобы работнікаў райінспектур.

Старшыня Журы *Голант*

Члены Журы { *Арцемкоў*, *Магідаў* }

---

Совет Народных Камісараў
Б С С Р

29/X-1935 года. № 185

## Лоеўскаму РВК
### УНХУ БССР тав. Владзімірскаму.

Паводле арт. 16 палажэння аб органах наргасучота, зацверджанага пастановай СНК СССР 10/III-1932 г. забараняецца інспектурам народна-гаспадарчага ўчота выконваць якія-б та ні

было работы, прапануемыя да выканання мясцовымі органамі, без дазволу вышэйстаячага Кіраўніцтва Народна-Гаспадарчага ўчота.

Між тым, пастановай Прэзідыума Лоеўскага РВК ад 14/Х-г.г. на раённага інспектара народна-гаспадарчага ўчота ўскладзена (без узгаднення з Кіраўніцтвам Наргасучота) выкананне работы па складанню народна - гаспадарчага плана раёна на 1936 год.

З тае прычыны, што пастанова Лоеўскага РВК супярэчыць памянёнай пастанове СНК СССР, Совет Народных Камісараў БССР прапануе Вам скасаваць сваю пастанову ад 14/Х-1935 г

Нам. Старшыні Совета Народных
Камісараў БССР *А. Саак'ян*

---

## КНГУ Саюзных рэспублік, краёў і абласцей

У сувязі з радам запытанняў, паступіўшых з месц: 1) аб парадку нумарацыі пагаспадарчых кніг сельсовецкага ўчота на 1936 г. (ф. 2, 3 і 3-а), 2) аб парадку нумарацыі гаспадарак 3) аб тэрміну і парадку завядзення алфавіта на гаспадаркі, унесеныя ў пагаспадарчыя кнігі 1936 г. і інш.—ЦУНХУ Дзярж-плана СССР у дадатак да сваей пастановы ад 8 жніўня 1935 г. № 581 растлумачвае:

1. Пагаспадарчыя кнігі сельсовета на 1936 г. павінны нумаравацца сквазной нумарацыяй. Калі сельсовет мае 5 кніг ф. 2, дзве кнігі ф. 3 і адну кнігу ф. 3-а—нумараваць іх трэба так: кнігі ф. 2 паслядоўна нумаруюцца ад 1 да 5 нумара, кнігі ф. 3—нумарамі 6 і 7, а кніга ф. 3-а нумарам 8-м.

2. У ліцавых рахунках пагаспадарчых кніг адсутнічае пытанне аб населеным пункце каб не паўтараць у кожным ліцавым рахунку аднэй і той-жа назвы (паколькі гаспадаркі распалажаны ў кнігах па паселішчам).

Аднак, неабходна ўсё-ж ведаць у якім населеным пункце знаходзіцца тая альбо іншая гаспадарка. Пагэтаму, калі ў пагаспадарчую кнігу ўпісаны гаспадаркі аднаго населенага пункта (г. зн. калі для кожнага населенага пункта адведзена асобная кніга), то на вокладцы кнігі пішацца назва гэтага населенага пункта.

Калі ў даную кнігу ўнесены гаспадаркі 2-х альбо 3-х розных населеных пунктаў, то на вокладцы пагаспадарчай кнігі запісваюцца ўсе тры назвы з адзнакай супроць кожнай: ад якой да якой старонкі размешчаны гаспадаркі данага населенага пункта, напрыклад: вёска Іванаўка 1 — 70 старонкі, хутар Міхайлаўскі 71—100 стар.

У самой-жа кнізе перад першай гаспадаркай вёскі Іванаўкі неабходна ўклеіць пракладку (язычок) з назвай „вёска Іванаўка" тое-ж зрабіць і перад наступным населеным пунктам.

Трэба памятаць, што ў кнігах па сканчэнні аднаго населенага пункта трэба заставіць некаторую колькасць свабодных старонак для гаспадарак гэтага паселішча, якія могуць падзяліцца альбо ўзнікнуць уноў.

3. Для своечасовай арганізацыі ў сельсовеце ўчота мясапаставак у лік выканання плана 1936 г. у кастрычніку належыла ўлічыць усе калгасы (журнал № 1) і ўсе гаспадаркі, якія заносяцца ў кнігу № 2 (калгаснікаў) і кнігу № 3 (аднаасобнікаў) у тэрыторыяльным парадку. У ліцавыя рахункі, згодна пастановы ЦУНХУ № 581, павінны былі быць унесены прозвішчы, імя і імя па бацьку і план мясаздачы на 1936 год.

Пасля 15 снежня павінен быць зроблен суцэльны абход двароў, выяўлены ўсе прапушчаныя гаспадаркі і ўлічаны ўсе гаспадаркі рабочых, служачых і інш., якія павінны быць занесены ў кнігу № 3-а.

У момант абхода павінна быць улічана насельніцтва кожнай гаспадаркі і дасканала запоўнен на месцы першы раздзел пагаспадарчай кнігі.

Па сканчэнні гэтага ўчота ў сельсовеце трэба будзе скласці спіс гаспадарак ф. № 4, па якому і будзе прысвоен гаспадарцы цвёрды нумар на 1936 год.

Такім чынам да завядзення спісаў ф. № 4 гаспадаркам не могуць прысвайвацца ніякія сталыя нумары на 1936 год. Так як да 15 снежня сельсовет складае спісы мясаздатчыкаў па ф. 38, то графа „сталы № гаспадаркі" у гэтым спісу не запаўняецца.

Пасля складання спіса № 4 і ўстанаўлення № гаспадаркі на 1936 год, сельсовет дадаткова прадстаўляе гэты нумар у спісу мясаздатчыкаў, атрымаўшы яго ад заготарганізацый.

Калі які-небудзь сельсовет праставіў у пагаспадарчых кнігах 1936 г. нумары гаспадарак па 1935 году, то гэта не аслабаняе сельсовет ад дасканалага ўчота ўсіх гаспадарак у канцы 1935 года і ад суцэльнай нумерацыі гаспадарак. У гэтым выпадку новы нумар прастаўляецца ў кніге дроб'ю і ў далейшым толькі гэтым нумарам неабходна аперыраваць.

4. Алфавітная кніжка павінна быць складзена ў кастрычніку ў момант фактычнага адчынення ліцавых рахункаў і канчаткова дапоўнена ў снежні месяцы г. г.

У сучасны момант у яе павінны быць унесены: прозвішча, імя і імя па бацьку домагаспадара і паказан нумар кнігі і нумар старонкі ліцавога рахунка гаспадаркі.

У другой палове снежня ў яе ўносяцца сталыя нумары гаспадарак.

5. Інструкцыя па вядзенню первічнага ўчота ў сельсоветах і альбом форм падрыхтаваны да друку і к канцу лістапада будуць разасланы ўсім раённым і участковым інспектарам.

КНГУ атрымоўваюць абразцы форм ад Саюзоргучота часткамі. Агульны раздзел і раздзел фінансаў ужо пасланы, а астатнія формы будуць дасланы 25—27 кастрычніка.

Нам. Нач. Цэнтр. Кір. Нар. Гасп.
Учота Дзяржплана СССР *Папоў.*

Нам. Нач. Цэнтр. Учотнай Інспекцыі *Моргенштэрн.*

## Загад № 1614

## Па Народнаму Камісарыяту Земляробства БССР

*гор. Менск.* *ад 29-га кастрычніка 1935 г.*

Незаконна ўведзеную адчотнасць Дрысенскім Райза, выразіўшуюся ў патрабаванні звестак ад с/советаў і соўгасаў аб наяўнасці садоў,—**адмяніць.**

Папярэдзіць Загадчыка Дрысенскага Райза тав. Мажайскага, што ў выпадку паўтарэння гэтага будуць прыняты меры ўздзейнічання.

Нам. Наркома Земляробства БССР *Кароўнікаў.*

## Заг. Лоеўскага РАЙЗА т. Юрчанка

## Копія: УНХУ БССР і інспектару Наргасучота Лоеўскага раёна

*Да нашага № 250 ад 22-IX-1935 г.*

Згодна паведамлення інспектара Наргасучота Лоеўскага раёна, Вы ў сувязі з нашым патрабаваннем дакладна ўлічыць наяўнасць с/г. машын і інвентара і даслаць нам план рамонта, у абход існуючых законаў, патрабуецца ад калгасаў прадстаўлення актаў аб наяўнасці машын.

Растлумачваем, што ад калгасаў можна патрабаваць толькі планы рамонта. Наяўнасць жа с/г машын і інвентара павінна быць улічана і праверана самімі Райза па ўжо маючымся ў іх матэрыялам—інвентарызацыя па становішчу на 1/I-1935 г., завозу ўтворанага ў 1935 г. аперацыйнай справаздачнасці па рамонту глебаапрацовачных і ўборачных машын і інш.

Нам. нач. зернакіраўніцтва НКЗБ *Шмерліс*
МТО *Тера*

1/XI-1935 г. № 300.

# II. РАБОТА РАЁННЫХ І УЧАСТКОВЫХ ІНСПЕКТУР

## Агляд работы райінспектур

**(па матэрыялам абследвання).**

Дубровенскі раён.

Справы на 1935 год заведзены і знаходзяцца ў парадку. Райінспектура мае запазычанасць перад сектарамі КНГУ БССР па наступным работам; натуральны рух насельніцтва, кантрольны ўчот школ, учот аграмаджанага жылфонда, учот жылплошчы ўступіўшай у эксплаатацыю, грамадскае харчаванне за II і III кварталы г.г.

Кніга асноўных паказчыкаў выканання плана па раёну зараз не вядзецца і кан'юнктура не прадстаўляецца кіруючым органам раёна.

Кнігі первічнага сельсовецкага ўчота на 1936 год раздадзены сельсоветам і праведзен інструктаж сакратароў сельсоветаў па запаўненню гэтых кніг.

Завядзенне кніг первічнага ўчота на 1936 год яшчэ не распачата ў сельсоветах (Савінскі, Мардашэвіцкі с/с, горсовет).

Участковыя інспектары вядуць днеўнікі, якія сістэматычна правяраюцца райінспектарам.

Талачынскі раён.

Справы на 1935 г. заведзены, але знаходзяцца не зусім у парадку (матэрыялы па ўчоту жывёлы і пасеўных плошчаў не падшыты).

Райінспектурай не прадстаўлен у КНГУ матэрыял па грамадскаму харчаванню (па самадзейным сталоўкам) за III квартал г.г.

Дрэнна пастаўлена работа па рэгістрацыі будаўніцтва (матэрыялы райінспектура атрымлівае ад Райза, а ўчастковыя інспектары гэтым пытаннем не займаюцца).

Кніга асноўных паказчыкаў выканання плана па раёну не вядзецца. Кнігі первічнага ўчота на 1936 год раздадзены не ўсім сельсоветам (з 20 сельсоветаў кнігі ўручаны 18 сельсоветам).

Пагаспадарчыя кнігі на 1935 г. вядуцца ў некаторых сельсоветах нездавальняюча (Талачынскі м/совет): у кнігах 2-а і 2-б не запаўняюцца некаторыя аддзелы.

З участковых інспектароў вядзе днеўнік толькі адзін т. Мя-

снікоў. У райінспектуры зусім не адчуваецца працдысцыпліны у службовы час работнікі кідаюць работу і ідуць у мястэчка (па асабовым справам).

Камарынскі раён.

Справы на 1935 г. заведзены і знаходзяцца ў парадку. Рай інспектурай не прадстаўлены ў КНГУ матэрыялы па грамадскаму харчаванню (па самадзейным сталоўкам) за 1, 2 і 3 кварталы 1935 г., а таксама па механічнаму руху насельніцтва за кастрычнік месяц 1935 г.

Кніга асноўных паказчыкаў выканання плана па раёну вядзецца і кан'юнктурныя агляды прадстаўляюцца штомесячна кіруючым органам раёна.

Кнігі первічнага сельсовецкага ўчота на 1936 год раздадзены ўсім сельсоветам і праведзена інструкцыйная нарада сакратароў сельсоветаў. Запаўненне пагаспадарчых кніг на 1936 г. у сельсоветах пачата. Участковымі інспектарамі вядуцца днеўнікі, якія правяраюцца райінспектарам 2 разы ў месяц.

З боку ўчастковых інспектароў недастаткова звяртаецца ўвага на пастаноўку ўчота ў сельсоветах і калгасах.

Райінспектура вядзе барацьбу з парушэннямі ўчотнай дысцыпліны.

Суражскі раён.

Справы на 1935 год заведзены і знаходзяцца ў парадку. Райінспектурай не прадстаўлены ў КНГУ матэрыялы па грамадскаму харчаванню (самадзейным сталоўкам) за 1, 2 і 3 кварталы 1935 г. Кніга аснаўных паказчыкаў выканання плана па раёну не вядзецца і кан'юнктура кіруючым органам раёна не прадстаўляецца.

Кнігі первічнага ўчота на 1936 год раздадзены сельсоветам, Інструкцыйная нарада сакратароў сельсоветаў не праведзена. Працдысцыпліна сярод работнікаў райінспектуры і ўчастковых інспектароў слабая.

Рагачоўскі раён.

Справы на 1935 год заведзены і знаходзяцца ў парадку, за выключэннем грашовай справы, у якой дакуманты не падшыты. Кніга аснаўных паказчыкаў выканання плана раёна заведзена, але-ж запаўняецца не па ўсім раздзелам. Кан'юнктурныя агляды за апошні час не дасылаюцца кіруючым органам раёна і ў КНГУ.

Кнігі первічнага сельсовецкага ўчота на 1936 г. раздадзены сельсоветам. Інструкцыйная нарада сакратароў сельсоветаў не праведзена.

Райінспектура і ўчастковыя інспектары недастаткова звяртаюць увагі на пастаноўку ўчота ў сельсоветах і калгасах. Самой райінспектуры і ўчастковым інспектарам неабходна прасачыць за завядзеннем у сельсоветах пагаспадарчых кніг на 1936 год.

Райінспектару ўзмацніць праверку работы ўчастковых інспектароў і сачыць за тым, каб кожны з іх веў днеўнік сваёй работы.

Слуцкі раён.

Справы на 1935 г. заведзены і знаходзяцца ў парадку. Кніга асноўных паказчыкаў выканання плана раёна вядзецца. Кан'юнктурныя агляды прадстаўляюцца кіруючым органам раёна, але-ж са спазненнем. Пагаспадарчыя кнігі на 1936 год раздадзены ўсім сельсоветам. Інструкцыйная нарада сакратароў сельсоветаў не праведзена. Завядзенне пагаспадарчых кніг на 1936 г. распачата не ва ўсіх сельсоветах. Першчны ўчот у некаторых сельсоветах (Іванагародніцкі) пастаўлен дрэнна: пагаспадарчыя кнігі на 1935 г. запаўняюцца неакуратна, а на 1936 год завядзенне кніг яшчэ не распачата.

Участковыя інспектары вядуць днеўнікі работ неакуратна (т. Балвановіч).

Райінспектуры і ўчастковым інспектарам неабходна ўзмацніць работу па наладжванню першчнага ўчота ў сельсоветах і калгасах.

Любаньскі раён.

Справы на 1935 г. заведзены і знаходзяцца ў парадку. Кніга асноўных паказчыкаў выканання плана раёна вядзецца, але кан'юнктурныя агляды не прадстаўляюцца кіруючым органам раёна. У КНГУ прадстаўляецца кан'юнктура па прамысловасці.

Пагаспадарчыя кнігі на 1936 год раздадзены ўсім сельсоветам, але-ж інструктаж сакратароў сельсоветаў аб парадку вядзення гэтых кніг праведзен недастаткова.

Першчны ўчот у некаторых сельсоветах (Рачэнскі, Турокскі) пастаўлен нездавальняюча: пагаспадарчыя кнігі на 1935 г. запаўняюцца не па ўсім раздзелам, а на 1936 г. кнігі гэтыя яшчэ не заведзены.

Райінспектура і ўчастковыя інспектары недастаткова звяртаюць увагу на пастаноўку ўчота ў сельсоветах і калгасах, а таксама на рэгістрацыю будаўніцтва.

Старобінскі раён.

Справы на 1935 г. заведзены і знаходзяцца ў парадку. Кніга асноўных паказчыкаў выканання плана раёна з пачатку года вялася, а зараз не вядзецца. Кан'юнктура кіруючым органам раёна не прадстаўляецца.

Пагаспадарчыя кнігі на 1936 год раздадзены ўсім сельсоветам. Інструкцыйнай нарады сакратароў сельсоветаў аб парадку вядзення гэтых кніг не было. Завядзенне пагаспадарчых кніг на 1936 год у сельсоветах яшчэ не распачата (Шапелеўскі, Мазурскі, Старобінскі сельсоветы). У некаторых сельсоветах (Шэпелеўскі) пагаспадарчыя кнігі за 1935 год вядуцца неакуратна.

Райінспектар і ўчастковыя інспектары недастаткова звяртаюць увагі на пастаноўку ўчота ў сельсоветах і калгасах.

З боку райінспектара слаба пастаўлена праверка работы ўчастковых інспектароў на месцы.

Працдысцыпліна ў самой райінспектуры і сярод участковых інспектароў слабая. Наглядаюцца нядбайныя адносіны да работы з боку некаторых супрацоўнікаў (Круповіч, Сарэвіч). Не ўсе ўчастковыя інспектары вядуць днеўнікі работы (т. Юхневіч).

---

## Старшыні Касцюковіцкага РВК

## Адбітак: Касцюковіцкаму РайФА і КНГУ БССР

Пры гртым дасылаецца копія акта аб праверцы пастаноўкі ўчота па Касцюковіцкай камгаснай бані.

З акта бачна, што па бані няма ніякага ўчота па ўзыманню платы з наведвальнікаў і што баня ператворана ў прыватнае прадпрыемства, Камгас не вядзе ніякага ўчота квітанцыённым кнігам, не нумаруе апошніх і не ведае колькі іх скарыстана. Квітанцыённыя кнігі набываюцца самім загадчыкам бані т. Корапавым і ім-жа нумаруюцца.

Выручаныя грошы не здаюцца ў банк, а выдаткоўваюцца па ўгледжанню загадчыка бані без ведама Камгаса і толькі астача, калі яна маецца, здаецца ў банк адзін альбо два разы ў месяц.

Пры бані арганізавана прыватная прадажа венікаў самім загадчыкам бані і выручаныя грошы ад прадажы венікаў пападаюць у кішэню самаго загадчыка, а не ў Камгас.

Як бачна з акта, Камгас выпусціў з свайго круга работы кіраўніцтва пастаноўкай учота ў бані і гэтым самым дае повад да раскрадвання і незаконнага выдаткавання дзяржаўных сродкаў.

Райфа не цікавіцца прыбыткамі бюджэта.

Інспектура Наргасучота просіць уздзейнічаць на кіраўніцтва Камгаса з тым, каб апошні да 1/XI гг. устанавіў адпаведны ўчот і справаздачнасць па бані і адначасова вытварыў рэвізію грашовых спраў.

ЧВА Райінспектара Наргасучота *Мельнікаў.*

25/X-1935 г. № 5.

---

Змяшчаючы гэтае паведамленне Касцюковіцкай райінспектуры, Кіраўніцтва Наргасучота БССР прапануе ўсім райінспектарам Наргасучота звярнуць увагу на пастаноўку ўчота на прадпрыемствах, падпарадкаваных райкамгасам (бані, гасцініцы, млыны і інш.).

## Усім сельсоветам, калгасам і ўстановам Нараўлянскага раёна

У апошні час інспектурай Наргасучота выяўлена ў шэрагу сельсоветаў, што некаторыя раённыя ўстановы і арганізацыі (РайФА, РайЗА і інш). спускаюць у с/советы складзеныя імі формы справаздачнасці, не прадугледжаныя пастановамі ЦВК, СНК і ЦКНГУ СССР, і па гэтым формам патрабуюць розныя звесткі ад сельсоветаў і калгасаў, чым парушаюць і ігнаруюць пастанову ЦВК і СНК БССР ад 27/XI-1933 г. за № 32/2530.

Пагэтаму РВК і Райінспектура НГУ катэгарычна папярэджваюць усіх кіраўнікоў раённых устаноў, што пры выяўленні ў дальнейшым падобных выпадкаў яны будуць прыцягнуты да судовай адказнасці.

Адначасова з гэтым папярэджваем сакратароў с/советаў і рахункаводаў калгасаў аб тым, што яны нясуць адказнасць за дачу звестак, не прадугледжаных альбомам справаздачнасці с/советаў і калгасаў на 1935 г., нараўне з тымі, хто спускае гэтыя формы.

РВК і інспектура НГУ прапануюць загадчыку друкарні „ЗК" тав. Загсу друкаваць формы раённым установам і арганізацыям толькі ў тым выпадку калі яны будуць мець на гэта дазвол ад РВК і Райінспектуры НГУ.

Нам. Старшыні РВК *Аксючэнка*

Райінспектар НГУ *Сцяпанаў*

19 Кастрычніка 1935 г.

## Пастанова

1935-га года, верасня 8-га дня. Пракурор Сенненскага раёна, разгледзеўшы перапіску, прысланую Кіраўніцтвам Народна-гаспадарчага ўчота, аб парушэнні пастановы Саюзнага ўраду аб учотнай дысцыпліне з боку старшыні Алексініцкага с/с т. Вербіцкага і прымаючы пад увагу, што з боку Вербіцкага дапушчана парушэнне пастановы СНК СССР ад 20-га лістапада 1934 года аб пярвычным учоце ў Сельскіх советах на 1935 г.,

Пастанавіў:

Распараджэнне старшыні Алексініцкага с/с т. Вербіцкага, спушчанае ўсім старшыням калгасаў абслугоўваемага ім с/с аб штодзенным прадстаўленні звестак па форме, указанай самім Вербіцкім, як незаконнае адмяніць. Прасіць Прэзідыум РВК аб налажэнні на т. Вербіцкага адміністрацыйнага спагнання за парушэнне пастановы Ураду аб учоце, аб чым паведаміць Кіраўніцтва Наргасучота. Адбітак гэтай пастановы даслаць Алексініцкаму с/с, РВК і Кіраўніцтву Наргасучота.

Пракурор Сенненскага раёна *Дзенісенка*

## Выпіска з пратакола № 52 паседжання прэзідыума Бешанковіцкага Райвыканкома ад 1 кастрычніка 1935 г

Слухалі:

7. Вынікі конкурса на лепшы сельсовет па вядзенню ўчота, адчотнасці і справаводства (Мардвінаў).

Пастанавілі:

1. Вынікі праведзенага конкурса на лепшы сельсовет па ўчоту, адчотнасці і справаводству зацвердзіць. Адначасова адзначыць, што ні адзін с/с не дабіўся права на атрыманне першай прэміі па конкурсу. На-раду з сельсоветамі, якія дабіліся значнага палепшання ўчота, адчотнасці і справаводства (Астровенскі—сакратар с/с Галаўнеў, Сокараўскі—сакратар Пашкевіч, Пяцігорскі—сакратар Санько), маецца рад сельсоветаў, ў якіх справа ўчота, адчотнасці і справаводства знаходзіцца ў нездавальняючым становішчы (Бешанковіцкі н/совет—сакратар Лабкоўскі, Стрэлішчанскі—сакратар Саўчанка).

2. За добрую пастаноўку ўчота, адчотнасці і справаводства прэміраваць грашыма па 50 руб. кожнага наступных сакратароў советаў: Астровенскага—Галаўнева, Сокараўскага—Пашкевіча і Пяцігорскага—Санько.

3. Прапанаваць РайЗО, РайФО і аргаддзелу РВК і інспектару наргасучота ўзмацніць дапамогу і праверку пастаноўкі ўчота, адчотнасці і справаводства ў сельсоветах.

Старшыня РВК *Князеў*

Сакратар *Мардвінаў*

---

## Пастанова

### Прэзідыума Магілёўскага Райвыканкома

*ад 17/X-1935 года.*

**Аб выніках абследвання Амхоўскага і Махаўскага сельсоветаў па становішчу первічнага ўчота.**

Адзначыць, што нягледзячы на неаднаразовыя катэгарычныя ўказанні з боку РВК аб наладжванні первічнага ўчота сельсоветаў і апошняга папярэджання ўсіх сельсоветаў аб недапусцімых зьявішчах, маючых месца очкаўцірацельства з боку некаторых сельсоветаў,—усё-ж па Амхоўскаму і Махаўскаму сельсоветам вытвараным абследваннем становішча первічнага ўчота выяўлены факты грубейшага парушэння рашэнняў РВК, мяжуючых з абманам дзяржавы і очкаўцірацельствам (дача няправільных звестак РВК па фактычнаму засеву азімага кліна).

Первічны ўчот ў сельсоветах знаходзіцца ў самым заблытанным становішчы па ўсім відам палітычна-гаспадарчых кампаній, у прыватнасці азімага сева. Даныя звесткі сева Райза памянеными сельсоветамі ні на чым не абгрунтованы.

Выходзячы з чаго, Прэзідыум РВК пастанаўляе:

1. За поўны развал первічнага ўчота па Махаўскаму сельсовету, б. сакратара сельсовета Каліновіка, у сучасны момант працуючага нам. старшыні гэтага-ж сельсовета,—зняць з працы і аддаць пад суд.

2. Старшыню Махаўскага сельсовета Малахава, за безадказныя адносіны да кантроля пастаноўкі ўчота,—з працы зняць і аддаць пад суд.

3. Прыняць пад увагу, што сакратар Амхоўскага сельсовета Плюскевіч ужо знят з работы і аддан пад суд за развал работы, матар'ял аб очкаўцірацельстве і абману дзяржавы па асенняму севу далучыць дадаткова для прыцягнення яго да стражайшай судовай адказнасці.

4. Прымаючы пад увагу, што Старшынёй Амхоўскага сельсовета т. Дземідзенка прынят рад мер па ўпарадачэнню ўчота сельсовета, абмежавацца вынясеннем яму суровай вымовы з папярэджаннем.

Папярэдзіць т. Дземідзенка і сакратара сельсовета, што калі яны на працягу бліжэйшых дзён не наладзяць первічны ўчот с/совета,—да іх будуць прыняты сур'ёзныя меры ўздзейнічання.

5. Рашуча папярэдзіць усіх старшынь і сакратароў с/советаў, што калі імі не будуць прыняты ўсе захады да наладжвання первічнага ўчота сельсоветаў, да кожнага канкрэтнага віноўніка будуць ужыты самыя сур'ёзныя меры ўздзейнічання ўплоць да аддачы суду.

Пастанову гэту апублікаваць у друку.

Старшыня РВК *Плаўнік*

## Інструкцыя

### Па вядзенню грашовай справаздачнасці ў Райінспектуры Наргасучота

1. Усе без выключэння выдаткі вытвараюцца на падставе апраўдальных дакумантаў (ведамасці на зарплату, распіскі, рахункі і г. д.). Выдача авансаў пад справаздачу не дапускаецца, за выключэннем аванса райінспектару на гаспадарчыя выдаткі ў суме не больше 50 руб. Раз'ездныя райінспектару і ўчастковым інспектарам выдаюцца па ведамасці з распіскай ў атрыманні грошай. Пры выплаце зарплаты ведамасці складаюцца па райінспектуры асобна і для ўчастковых інспектароў асобна.

2. Выдаткі павінны вытварацца строга па прызначэнню і ні ў якім разе не дазваляецца выдаткаванне сум зарплаты на гаспадарчыя і, наадварот, гаспадарчых на зарплату. Астача невыдаткаваных сум павінна заставацца ў банку.

3. Страхавыя ўзносы за работнікаў райінспектуры і ўчастковых інспектароў пералічваюцца Кіраўніцтвам НГУ БССР цэнтралізавана саюзу РДУ, а аплату бюлетэняў павінны вытвараць мясцкомы РВК згодна распараджэння саюза РДУ.

4. Пры звальненні райінспектара ці ўхода яго ў чарговы адпачынак альбо на ўчобу, ўсе грашовыя справы перадаюцца па акту другой адказнай асобе па інспектуры, а пры звароце ці ўноў паступленні на работу грашовыя справы прымаюцца па акту.

5. З мэтай арганізацыі правільнага ўчота прыбытку і выдатку грашовых сродкаў, у райінспектуры вядуцца наступныя кнігі і формы ўчота:

а) ведамасць прыбытковых сум (ф. № 1)

б) кніга выдаткаў (ф. № 2)

в) опіс інвентара (ф. № 3),

Кожны квартал дасылаюцца ў КНГУ: а) злічыцельная ведамасць (ф. № 4), б) справазд. ведамасць па пераводам поштай (ф. № 5) і адрыўныя лісты з кнігі выдаткаў.

6. Ведамасць прыбытковых сум (ф. № 1) вядзецца на падставе пераводных патрабаванняў, паведамлення банка, паштовых пераводаў і інш. Дакуманты нумаруюцца па парадку і падшываюцца да справы. Ітогі ў ведамасці выводзяцца за месяц, квартал і з пачатку года.

7. У кнігу выдаткаў (ф. № 2) запісваецца кожны выдатковы дакумент паасобку ў адпаведную графу і ў графу „усяго выдаткаў", Дробныя выдаткі (маркі, паштовыя выдаткі) запісваюцца ў спецыяльны сшытак, падлічваюцца за месяц і агульнай сумай заносяцца ў кнігу выдаткаў. У графе 1-ай кнігі выдаткаў указваецца месяц і число вытваранага выдатка, у графе 2-й № па чарзе дакументаў з пачатку года. Пры запісу ў кнігу гэты нумар прастаўляецца на дакуменце з адзнакай „запісана пад № ...“; у графе „каму і за што выдана“ указваецца назва дакуманта і выдатка, напрыклад: „ведамасць на зарплату райінспектуры за 1 палову студзеня“ і г. д. Па сканчэнні месяца вытвараецца падлік сум па ўсім графам кнігі за месяц, ніжэй паказваецца зварот за квартал, а пад ім—зварот з пачатку года. Кніга вядзецца пад капірку; па сканчэнні квартала адрыўныя лісты адсылаюцца пры квартальнай справаздачы ў КНГУ. Выдатковыя дакументы нумаруюцца па парадку і падшываюцца да справы

8. Справаздачнасць па ф. ф. № 4—злічыцельная ведамасць, № 5—справаздачная ведамасць па пераводам поштай райінспектура абавязана дасылаць КНГУ БССР раз у квартал: 5 красавіка, 5-га ліпеня, 5-га кастрычніка і 5 га студзеня. Пры справаздачы за IV квартал (5-га студзеня), акрамя паказаных 4 і 5 форм дасылаецца таксама ф. № 3—опіс інвентара.

Нач. адм-фін. сектара

КНГУ БССР *Магідаў*

**Увага:** Гэтая інструкцыя ўводзіцца з 1-га студзеня 1936 года.

# ЯКАСЦЬ

## работы райінспектур наргасучота за кастрычнік месяц 1935 г.

| Назва раёнаў | Катэгорыя | Натуральны рух насельніцтва | Механічны рух насельніцтва | Кантрольны ўчот школ усенавуча | Учот аграмаджанага жылфонда | Учот жылплошчы, уступіўшай у эксплаатац. | Цены калгас. гандлю | Грамад. харч. за III кв. | Учот прац. | | | Квартальны ўчот па калгасным формам. | Сярэдні бал. |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | | У прамысловасці | У будаўніцтве | У соўгасах і МТС | | |
| 1. Асіпавіцкі | 4 | 5 | 3 | 4 | 0 | 5 | 0 | 0 | 0 | 0 | 1 | 0 | 1,5 |
| 2. Асвейскі | 4 | 3 | 3 | 0 | — | — | 3 | 0 | 3 | 3 | 3 | 3 | 2 |
| 3. Бабруйскі | 2 | 3 | 5 | 4 | 0 | 5 | 4 | 5 | 4 | 3 | 2 | 4 | 3,5 |
| 4. Багушэўскі | 3 | 3 | — | 4 | 0 | — | 4 | 0 | 4 | 4 | 3 | 3 | 3 |
| 5. Барысаўскі | 2 | 5 | 4 | 3 | 0 | 5 | 5 | 5 | 4 | 4 | 3 | 4 | 4 |
| 6. Бешанков. | 3 | 3 | 5 | 4 | 0 | — | 4 | 0 | 4 | 5 | 3 | 3 | 3 |
| 7. Брагінскі | 4 | 0 | 3 | 0 | 0 | — | 0 | 0 | 3 | 3 | 0 | 3 | 1 |
| 8. Буда-Каш. | 2 | 5 | 4 | 5 | — | — | 4 | 5 | 4 | — | 2 | 3 | 4 |
| 9. Быхаўскі | 2 | 3 | 4 | 4 | 5 | 5 | 4 | 0 | 4 | 4 | 3 | 4 | 4 |
| 10. Бягомльскі | 3 | 3 | 4 | 0 | — | — | 4 | 0 | 4 | 3 | 4 | 0 | 2,5 |
| 11. Бялыніцкі | 2 | 5 | 5 | 3 | — | — | 4 | 5 | — | — | 2 | 3 | 4 |
| 12 Бярэзінскі | 3 | 3 | 4 | 4 | 0 | — | 4 | 0 | 4 | 4 | 3 | 0 | 2,5 |
| 13. Веткаўскі | 3 | 5 | 5 | 4 | 0 | 0 | 4 | 0 | 4 | — | 3 | 3 | 3 |
| 14. Віцебскі | 1 | 5 | 5 | 4 | 5 | 5 | 5 | 5 | 5 | 5 | 4 | 5 | 4,5 |
| 15 Ветрынскі | 3 | 5 | 3 | 4 | 5 | — | 4 | 0 | 3 | 3 | 3 | 3 | 3 |
| 16. Гарадоцкі | 2 | 3 | 4 | 4 | 0 | 5 | 4 | 0 | 4 | 4 | 4 | 5 | 3,5 |
| 17. Глускі | 2 | 5 | 4 | 4 | 5 | — | 4 | 5 | 4 | 5 | 3 | 3 | 4 |
| 18. Гомельскі | 1 | 5 | 5 | 4 | 5 | 5 | 5 | 5 | 5 | 5 | 3 | 5 | 4,5 |
| 19. Горацкі | 3 | 3 | 3 | 5 | 0 | 5 | 4 | 0 | 0 | 5 | 3 | 3 | 3 |
| 20. Грэскі | 3 | 3 | 4 | 5 | — | — | 4 | 0 | 3 | 4 | 4 | 3 | 3 |
| 21. Дрысенскі | 3 | 3 | 4 | 4 | 0 | — | 5 | 0 | 3 | 3 | 3 | 4 | 3 |
| 22. Дубровенскі | 4 | 0 | 4 | 0 | 0 | 0 | 4 | 0 | 4 | 4 | 3 | 0 | 2 |
| 23. Дрыбінскі | 3 | 5 | — | 4 | — | — | 4 | 0 | 3 | — | 3 | 4 | 3 |
| 24. Дзяржынскі | 3 | 5 | 3 | 4 | 0 | 0 | 3 | 0 | 4 | 3 | 4 | 3 | 2,5 |
| 25. Даманавіцкі | 4 | 3 | — | 0 | — | — | 2 | 0 | 3 | — | 2 | 3 | 2 |
| 26. Добрушскі | 3 | 5 | 3 | 4 | 0 | 0 | 3 | 5 | 4 | 4 | 3 | 0 | 3 |
| 27 Ельскі | 2 | 5 | 4 | 4 | — | — | 4 | 5 | 3 | 3 | 3 | 4 | 4 |
| 28. Жлобінскі | 3 | 3 | 4 | 4 | 0 | 5 | 3 | 0 | 4 | 4 | 3 | 3 | 3 |
| 29. Журавіцкі | 4 | 0 | — | 0 | — | — | 4 | 0 | 0 | — | 3 | 0 | 1 |
| 30. Жыткавіцкі | 2 | 3 | 3 | 5 | — | — | 4 | 5 | 4 | 5 | 4 | 5 | 4 |
| 31. Заслаўскі | 4 | 3 | 0 | 0 | — | — | 3 | 0 | 3 | — | 0 | 0 | 1 |
| 32. Камарынскі | 3 | 5 | 0 | 4 | — | — | 4 | 0 | 3 | 3 | 3 | 3 | 3 |
| 33 Копыльскі | 2 | 5 | 4 | 4 | — | — | 5 | 5 | 3 | — | 4 | 5 | 4 |
| 34. Кармянскі | 3 | 5 | 4 | 3 | 0 | — | 4 | 0 | 4 | 4 | 4 | 3 | 3 |
| 35. Касцюков | 2 | 3 | 5 | 5 | 5 | — | 4 | 5 | 4 | — | 3 | 4 | 4 |
| 36. Клімавіцкі | 3 | 5 | 4 | 3 | 0 | 0 | 4 | 5 | 3 | 3 | 3 | 3 | 3 |
| 37. Клічаўскі | 3 | 3 | — | 4 | — | — | 2 | 0 | 3 | 3 | 3 | 3 | 3 |
| 38. Круглянскі | 3 | 5 | — | 3 | — | — | 3 | 5 | 3 | 3 | 4 | 0 | 3 |
| 39. Крупскі | 2 | 5 | 4 | 4 | 5 | — | 3 | 5 | 4 | — | 3 | 3 | 4 |
| 40. Кіраўскі | 3 | 3 | — | 0 | — | — | — | 4 | 3 | — | 3 | 3 | 3 |
| 41. Крычаўскі | 3 | 5 | 4 | 4 | 0 | 5 | 3 | 4 | 3 | 4 | 3 | 0 | 3 |
| 42. Капаткевіц. | 3 | 5 | 4 | 3 | — | — | 4 | 4 | 3 | 3 | 3 | 0 | 3 |
| 43. Лагойскі | 3 | 3 | 2 | 4 | — | — | 3 | 0 | 3 | — | 2 | 3 | 2,5 |
| 44. Лельчыцкі | 3 | 5 | 3 | 4 | — | — | 4 | 0 | 4 | — | 3 | 3 | 3 |
| 45 Лепельскі | 3 | 0 | 5 | 0 | 0 | 5 | 3 | 0 | 3 | 4 | 3 | 4 | 2,5 |

| Назва раёнаў | Катэгорыя. | Натуральны рух насельніцтва. | Механічны рух насельніцтва. | Кантрольны ўчот школ усенавуча | Учот аграмаджанага жылфонда. | Учот жылплошч. уступіўш. у эксплаатацыю. | Цены калгас. гандалю. | Грамад. харчаванне за III квартал. | Учот прац. У прамысловасці | Учот прац. У будаўніцтве. | Учот прац. У соўгасах і МТС | Квартальны ўчот па калгасным фермам. | Сярэдні бал. |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 46. Лоеўскі . . | 2 | 5 | 5 | 4 | — | — | 4 | 0 | 4 | 4 | 3 | 3 | 3,5 |
| 47. Любаньскі . | 2 | 5 | 4 | 5 | — | — | 3 | 4 | 4 | 3 | 2 | 5 | 4 |
| 48. Лёзненскі . | 3 | 5 | 4 | 4 | 0 | — | 3 | 0 | 4 | 4 | 2 | 4 | 3 |
| 49 Магілеўскі . | 3 | 5 | 5 | 0 | 0 | 5 | 3 | 0 | 5 | 5 | 4 | 4 | 3 |
| 50. Мазырскі . | 2 | 5 | 5 | 5 | 5 | 5 | 3 | 0 | 4 | 4 | 3 | 3 | 4 |
| 51. Менск (гор.) | 2 | 5 | 5 | 5 | 0 | 5 | 5 | 0 | 4 | 4 | 3 | — | 3,5 |
| 52. Менскі . | 2 | 5 | — | 4 | — | — | — | 0 | 4 | 4 | 4 | 4 | 3,5 |
| 53 Мехаўскі. . | 3 | 3 | — | 4 | — | — | 0 | 0 | 4 | 3 | 4 | 3 | 3 |
| 54. Мсціслаўскі | 3 | 5 | 4 | 5 | 0 | 5 | 4 | 0 | 4 | 4 | 3 | 3 | 3 |
| 55. Нараўлянскі | 2 | 5 | 4 | 4 | 5 | — | 4 | 4 | 3 | — | 3 | 4 | 4 |
| 56. Аршанскі . | 3 | 5 | 5 | 4 | 0 | 0 | 3 | 4 | 3 | 3 | 3 | 5 | 3 |
| 57. Парыцкі . . | 3 | 5 | 4 | 4 | 0 | — | 4 | 0 | 3 | 3 | 3 | 3 | 3 |
| 58. Петрыкаўскі | 4 | 3 | 2 | 0 | 0 | 0 | 4 | 0 | 4 | 4 | 3 | 3 | 2 |
| 59. Плешчаніцкі | 3 | 3 | 3 | 3 | 0 | — | 4 | 0 | 3 | — | 3 | 3 | 2,5 |
| 60. Прапойскі . | 4 | 3 | 4 | 4 | — | — | 2 | 0 | — | 0 | 3 | 3 | 2 |
| 61. Полацкі . . | 3 | 3 | 5 | 2 | 0 | 5 | 5 | 0 | 3 | 3 | 2 | 3 | 3 |
| 62. Пухавіцкі . | 2 | 5 | 3 | 4 | — | — | 4 | 4 | 4 | 3 | 3 | 3 | 3,5 |
| 63. Рагачоўскі . | 2 | 5 | 4 | 4 | 5 | 5 | 4 | 4 | 4 | — | 3 | 4 | 4 |
| 64. Расонскі. . | 2 | 5 | 5 | 4 | — | — | 4 | 4 | 4 | 4 | 3 | 4 | 4 |
| 65. Рэчыцкі. . | 2 | 5 | 5 | 5 | 0 | 5 | 3 | 4 | 4 | 4 | 3 | 5 | 4 |
| 66. Рудзенскі . | 3 | 3 | — | 4 | 0 | — | 4 | 0 | 3 | 4 | 4 | 3 | 3 |
| 67. Сенненскі . | 3 | 3 | 3 | 4 | 0 | 5 | 2 | 0 | 4 | 3 | 3 | 4 | 3 |
| 68. Сіроцінскі . | 2 | 5 | 5 | 4 | — | — | 4 | 0 | 4 | 5 | 4 | 5 | 4 |
| 69. Слуцкі. . . | 2 | 5 | 4 | 4 | 5 | 5 | 2 | 4 | 3 | 3 | 3 | 4 | 4 |
| 70. Смалявіцкі. | 2 | 5 | 4 | 4 | — | — | 4 | 0 | 4 | 4 | 3 | 3 | 3,5 |
| 71. Ст.-Дарож . | 2 | 3 | 5 | 4 | 0 | — | 4 | 0 | 4 | 5 | 4 | 5 | 3,5 |
| 72. Старобінскі | 2 | 5 | 4 | 4 | — | — | 4 | 4 | 3 | 5 | 3 | 4 | 4 |
| 73. Свяцілав. . | 3 | 3 | — | 4 | — | — | — | 0 | 3 | — | 3 | 4 | 3 |
| 74. Суражскі. . | 3 | 3 | 5 | 4 | — | — | 2 | 0 | 3 | 3 | 4 | 4 | 3 |
| 75. Талачынскі | 2 | 5 | 4 | 4 | 5 | — | 3 | 0 | 4 | 5 | 3 | 4 | 3,5 |
| 76. Тураўскі. . | 3 | 5 | 4 | 4 | — | — | 2 | 0 | 3 | 5 | 3 | 3 | 3 |
| 77. Уваравіцкі. | 2 | 5 | 5 | 4 | — | — | 4 | 0 | 4 | 3 | 4 | 4 | 3,5 |
| 78. Уздзенскі . | 2 | 5 | 3 | 5 | 0 | — | 4 | 4 | 4 | 4 | 4 | 4 | 3,5 |
| 79. Ушацкі . . | 3 | 5 | 3 | 2 | 5 | — | 0 | 0 | 3 | 0 | 3 | 3 | 2,5 |
| 80. Хоцімскі. . | 3 | 5 | — | 3 | 0 | — | 5 | 0 | 3 | — | 3 | 3 | 3 |
| 81. Хойніцкі. . | 2 | 5 | 5 | 4 | — | — | 5 | 0 | 4 | 5 | 3 | 4 | 4 |
| 82. Халопеніцкі | 3 | 5 | 2 | 4 | — | — | 4 | 0 | 4 | — | 3 | 3 | 3 |
| 83. Церахаўскі. | 3 | 5 | 5 | 4 | — | — | 3 | 0 | 3 | — | 3 | 4 | 3 |
| 84. Чаускі . . | 3 | 5 | 4 | 5 | 0 | 0 | 5 | 0 | 3 | 3 | 3 | 3 | 3 |
| 85. Чачэрскі. . | 3 | 5 | 4 | 0 | — | — | 5 | 0 | 4 | — | 3 | 4 | 3 |
| 86 Чашніцкі. . | 2 | 5 | 4 | 5 | 5 | — | 4 | 0 | 4 | 5 | 3 | 4 | 4 |
| 87. Чырвонапол. | 3 | 3 | 4 | 4 | 0 | — | 4 | 0 | 3 | 0 | 3 | 3 | 2,5 |
| 88. Чырв.-Слаб. | 3 | 3 | 3 | 5 | — | — | 4 | 0 | 3 | — | 3 | 5 | 3 |
| 89. Чэрвеньскі. | 2 | 5 | 3 | 5 | 5 | 5 | 3 | 0 | 3 | 3 | 4 | 4 | 3,5 |
| 90. Чэрыкаўскі. | 2 | 5 | 4 | 4 | 5 | 5 | 4 | 0 | 3 | 4 | 3 | 3 | 3,5 |
| 91. Шклоўскі . | 3 | 5 | 3 | 3 | 0 | 5 | 3 | 0 | 4 | 5 | 3 | 4 | 3 |

## Загад № 251

### Па кіраўніцтву народна-гаспадарчага ўчота БССР

*ад 25 кастрычніка 1935 г.*

1. Вытваранай учотнай інспекцыяй рэвізіяй грашовых спраў і дакумантаў Чаускай райінспектуры Наргасучота за час з 1-га студзеня на 1-е кастрычніка 1935 г. выяўлен недахоп грошай у суме 576 р. 93 к. Акрамя гэтага, інспектар Мільцын вытварыў безпадстаўную выдачу 100 руб. інструктару т. Шапко і перавыдатак на перапіс жывёлы 86 р. 75 кап.

2. Участковы інспектар Кавалёў, атрымаўшы зарплату за красавік у час яго прабывання на курсах у Менску ў суме 174 руб., у другі раз атрымаў гэтую суму па ведамасці на зарплату за красавік у Чаускай інспектуры.

На падставе матэрыялаў рэвізіі загадваю:

1. Справу аб недахопе грашовых сродкаў у б. інспектара Наргасучота Чаускага раёна Мільцына ў суме 763 р. 68 кап. перадаць у суд.

2. За незаконнае атрыманне ў другі раз зарплаты за красавік месяц у суме 174 руб. абвясціць суровую вымову з папярэджаннем участковаму інспектару Кавалёву. Прапанаваць бухгальтэрыі залічыць гэтую суму пры выплаце яму зарплаты за бягучы месяц.

Нам. начальніка Кіраўніцтва Наргасучота БССР *Кацнельсон*

Рэдкалегія: *Голант*, *Арцямкоў*, *Магідаў*

Адказны рэдактар *В. Магідаў*.

Уп. Галоўлітбелу № 3289. Тыраж 400 экз. 20 стар. Заказ № 835.
Здана ў друк 13-XI 1935 г. Падпісана да друку 15-XI 1935 г.
Друкарня Беларускай Акадэміі Навук. Менск, Барысаўскі тракт 60.

